# Тыднёвік Магілёўскі




№ 1 (116) 1 – 7 чэрвеня 2001 г. Кошт 80 руб.


## Няхай стане добрым знакам на дарогу



Фота IREX



*... Мы разьвіталіся з вамі ў сьнежні з надзеяй на сёлетнюю сустрэчу. Яна здарылася, аднак, як бачым, ня хутка. На тое былі перашкоды (звычайныя для недзяржаўнай прэсы ў нашай краіне), на перадоленьне якіх спатрэбілася амаль паўгады. Але канчатковай упэўненасьці ў тым, што ўсе бар'еры ўзятыя, няма і сёньня. У газэты месяц рэдакцыю чакае прымусовая перарэгістрацыя, зразумела, абсалютна выпадкова наладжаная напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў...*

*Пакуль жа будзем жыць, сябры! Мы ня толькі здагадваемся, а ведаем тое дакладна, што нашыя верныя чытачы, якія адначасова ёсьць прыхільнікамі праўдзівага і вольнага друкаванага слова, сумавалі бяз нас таксама, як мы бязь іх. І вось мы – разам.*

*Выхад газэты такая ж вашая заслуга, як і самой рэдакцыі. Еднасьць многае можа. Супольнасьць здатная на дасягненьне самых складаных мэтаў. Толькі і трэба, што быць разам у дабры і прыстойнасьці.*

*Вось і няхай стане наш з вамі сьціплы прыклад сумесных намаганьняў добрым знакам для ўсяго гэтага году. І прыцягальным як сьвечка для ўсіх, хто хоча ня сёньняшняй сорамнай, а заўтрашняй прыстойнай краіны. Восень кожнаму дасьць магчымасьць вызначыцца па якой дарозе пайсьці. Але пачынаць думаць трэба ўжо цяпер (калі, зразумела, не хапіла апошніх сямі гадоў).*

*Ня будзем, аднак, дакараць адзін аднаму. Будзем разам думаць. Для таго і газэта: вось яны факты, вось яна праўда. Думайце...*

***Ваш Тыднёвік***

## Няміга: два гады маўчаньня

***"Ці вы думаеце, што тыя васемнаццаць чалавек, на якіх упала Сыляомская башня і пабіла іх, былі больш вінаватыя за ўсіх, хто жыве ў Ерусаліме? Не, кажу я вам, але калі не пакаецеся, усе таксама загінеце".***

***Эвангельле ад Лукі (13:4-5).***

... Два гады прайшло з дня трагедыі на Нямізе. 53 жыцьці ня ў чым невінаватых дзяўчатаў і юнакоў у некалькі жудасных хьвілінаў назаўсёды зьніклі ў падземным пераходзе менскай станцыі мэтро. Трагедыю адразу вуснамі чалавека, які сам паўсюдна падкрэсьлівае, што адказвае за ўсё, сьпісалі на раптоўны дождж.

Два гады доўжыцца маўчаньне. Не пакаяннае. Не спачувальнае. Ня горкае маўчаньне...

Доўжыцца самае прыкрае і цынічнае з усіх магчымых маўчаньняў: маўчаньне палітычнае.

Ці 53 загінуўшых былі самымі вінаватымі ў краіне нашай?

Не чуваць пакаяньня...



Фота IREX

ТРЭЦІ СУД

## Ці ёсьць новыя доказы?..

***Учора ў Цэнтральным магілёўскім судзе пад старшынствам Г.Кужалевай пачалося паўторнае слуханьне справы Дзьмітрыя Абадоўскага, якая вярнулася сюды пасьля дасьледваньня.***

Нагадаем, што сын вядомага ў краіне праваабаронцы Сяргея Абадоўскага знаходзіцца за кратамі зь лета 1999г. па падазрэньні ва ўчыненьні згвалтаваньня і крадзяжу. За гэты час сьледзтва ня здолела даказаць у судзе вінаватасьць Дзьмітрыя. Не атрымаў перамогі і абарончы бок. Хлопец, якому яшчэ далёка да 30-ці гадоў, ніводнага разу не прызнаў сябе вінаватым ні на допытах, ні ў судзе. Сваю невінаватасьць ён падмацоўваў некалькімі галадоўкамі, адна зь якіх (мінулай зімой) ледзь ня скончылася для яго і сям'і трагічна.

У абарону хлопца і падтрымку бацькі, які ў гэтай справе зьяўляецца афіцыйным адвакатам сына, неаднойчы выступалі айчынныя і замежныя праваабарончыя арганізацыі, грамадзкія дзеячы, недзяржаўныя газэты. Усе яны выступалі супраць жорсткага абыходжаньня з чалавекам, віну якога пракуратура не змагла даказаць у судзе, аднак справа пры тым не была спынена, а толькі вернутая на дасьледваньне, якое, па меркаваньні С.Абадоўскага, нічога новага доказнаму боку не прынесла. Тым часам хлопцу і ягонай абароне было адмоўлена ў вызваленьні "пад падпіску", і ён усе месяцы новага сьледзтва працягваў знаходзіцца за кратамі з прыкметна пагоршаным станам здароўя.

Учора суд вырашыў працэдурныя пытаньні і разгледзеў запыты. Па ўсяму, суд ня будзе хуткім па часе. "ТМ" мае намер інфармаваць чытачоў пра ягоны ход.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК юрыдычных праблемаў***

## Нязгасны прамень надзеі

"Скажи детям "Да"! – пад гэткім дэвізам ладзіцца дабрачынны рок-канцэрт, які павінен адбыцца 3 чэрвеня ў гарадзкім кінатэатры "Радзіма" а 18-й гадзіне.

Ініцыятарам акцыі выступае Асацыяцыя дапамогі дзецямінвалідам "Прамень надзеі", што ў нашай вобласьці аб'ядноўвае 167 сем'яў, дзе выхоўваюцца дзеці зь цяжкімі захворваньнямі. Дзяржаўная падтрымка гэтым дзецям, акрамя пэнсіі, мае фармальны характар. Хоць зразумела, што менавіта ім вельмі патрэбныя, разам з усім неабходным, добры адпачынак і аздараўленьне.

Удзел у канцэрце, усе сродкі ад якога пайдуць на дапамогу дзецям-інвалідам, замовілі магілёўскія гурты "Bedlam", "Swintch", "Like Suicide", "Бегемот". Залю для правядзеньня імпрэзы ўжо прадаставіла кінавідэааб'яднаньне "Позірк", а садзеяньне ў падрыхтоўцы імпрэзы аказваюць Магілёўскі эколяга-інфармацыйны цэнтар, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў, Магілёўскі цэнтар студэнцтва, моладзевае згуртаваньне "Агмень" і ГА "Кола сяброў".

"ТМ" далучаецца да звароту арганізатараў, у якім гаворыцца: "У нашым горадзе жывуць цяжка хворыя дзеці. Сёньня ім патрэбныя ваша ўвага, падтрымка і дапамога..." Сьціплыя грошы за квіток на канцэрт пойдуць на падтрымку Асацыяцыі, гэта значыць – дзецям.

***Уласная інфармацыя***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Сэсія магілёўскага гарсавету, а за ёй гарвыканкам два дні запар абмяркоўвалі праблему нявыплаты настаўнікам горада заробку яшчэ за красавік. Бюджэт на гэтыя мэты пусты. Эмацыйнае выступленьне на сэсіі дырэктаркі школы З.Чумаковай праняло старшыню выканкаму М.Краснова, які быў вымушаны паўстаць перад дэпутатамі, хаця па парадку дня выступаць не зьбіраўся. Ягонае тлумачэньне праблемы не блістала арыгінальнасьцю: бюджэт пусты, бо дрэнна працуе прамысловасьць. На выканкаме вырашылі (ці не ўпершыню?) зьвярнуцца ў банк за крэдытам, каб больш-менш прыстойна справадзіць настаўнікаў на канікулы і палепшыць іхны настрой на экзамэнах.**

**Афіцыйная статыстыка паведамляе пра няспынны рост эканомікі, а мы мусім выконваць сумную ролю і зьмяшчаць цалкам супрацьлеглую інфармацыю. Паводле зьвестак магілёўскіх прафсаюзаў, кошт мінімальнага спажывецкага кошыку ў вобласьці за месяц павялічыўся амаль на 6%, склаўшы 36.708 рублёў. Асабліва падаражэлі прадукты з саду і гароду, малочныя вырабы – рост цэнаў вагаецца ад 13% да 35%. А з пачатку года сярэднія цэны на асноўныя прадукты харчаваньня ў Магілёве ўзрасьлі на 28,1%.**

**У Дрыбінскім і Мсьціслаўскім раёнах памежная міліцыя затрымала аўтамабілі КамАЗ і ГАЗ, у якіх знаходзілася сукупна 7 тонаў каляровага мэталічнага лому. Усё гэтае дабро везьлі ў Расею, дзе высокія кошты на сыравіну і досыць лібэральны рэжым набыцьця падобных каштоўных грузаў. А вось у нас, дзе існуюць жорсткія забароны, чамусьці нішто не перашкаджае раз за разам парушаць загады. Напрыклад, днямі на праспэкце Шмідта затрымалі дваіх злаўмысьнікаў. 20 кг алюмінія яны зьнялі зь цеплатрасы, што знаходзілася побач. З аднаго боку, няма сапраўднага гаспадара, вось і крадуць, а з другога – забараняем прыймаць па сусьветных коштах сыравіну. Вось і цячэ яна на ўсход, узбагачаючы суседзяў...**

**У доме-інтэрнаце для псыхічна хворых, што ў вёсцы Свадкавічы Крычаўскага раёна, зафіксаваныя шматлікія парушэньні і злоўжываньні пэрсаналу. У асноўным парушаліся ўмовы гаспадараньня і харчовага забесьпячэньня хворых. Даходзіла справа й да элемэнтарнага абкраданьня штодзённага рацыёна няшчасных людзей. У выніку праверкі, як паведаміў наш карэспандэнт А.Кузьмін, былі аштрафаваныя некалькі супрацоўнікаў, у тым ліку і дырэктар.**

**Больш за паўтысячы афіцыйна зарэгістраваных наркаманаў у нашай вобласьці. Гэта ўжо невялікая вёска. Расьце колькасьць ахвяраў жахлівай бяды, разбураюцца сем'і, павялічваецца лічба злачынстваў на гэтай глебе. Між тым, па сьведчаньні спэцыялістаў, сытуацыю можна сур'ёзна выправіць. Але для гэтага патрабуюцца нестандартныя захады дзяржавы, падмацаваныя новым, сучасным поглядам на прычыны і наступствы наркаманіі. Зразумела, што патрэбныя й значныя грашовыя ўкладаньні. Усё гэта ў сёньняшняй Беларусі, на жаль, зрабіць немагчыма.**

**Лічба энэргетычнай запазычанасьці магілёўскай эканомікі амаль дапаўзла да рыскі 100 мільярдаў. Як не злуюцца разнастайныя начальнікі, як не пагражаюць чым толькі могуць самі энэргетыкі, ня хочуць плаціць прадпрыемствы і гаспадаркі за спажытае сьвятло. Асабліва гэта тычыцца, вядома, вёскі. Амаль палову з пачатку года, больш за 40 мільярдаў, не вярнулі калгасы і саўгасы. Нешта ўдалося сплаціць дзякуючы апошнім крэдытам. Але ж пачалося лета, і энэргетыкі зноў будуць вымушаныя крычаць пра свае бядоты. Што зноў-такі ня зьменіць галоўнага – росту запазычанасьці.**

**У той час, як нашая ўлада з розных трыбунаў кажа пра жахлівы Захад, пра ягонае імкненьне "парабаціць і разьдзяліць", той самы Захад спрабуе нам дапамагаць. Вось чарговы факт. Жыхары рэгіёну Рэйн-Нае ў Нямеччыне, сябры тамтэйшае ініцыятывы "Дапамога дзецям Чарнобыля", сабралі каля 10 тыс. сваіх марак на адбудову царквы ў клімавіцкай вёсцы Міславічы. А яшчэ немцы фінансуюць рэмонт школы ў пасёлку Ціманава. Там будзе разьмешчаны інтэрнат для дзяцей зь няўдалых сем'яў.**

**Напрыканцы рубрыкі горкая навіна. Разбураны Крыж непадалёк ад лаўсанаўскіх могілак, усталяваны дэмакратычнай грамадзкасьцю Магілёва 3 гады таму ў памяць аб ахвярах чарнобыльскай трагедыі. Зрабілі тое невядомыя, але не радавыя хуліганы. Апэрацыя па зьнішчэньні сьвятыні была праведзеная з выкарыстаньнем тэхнікі, на што, зразумела, быў патрэбны адпаведны загад нечага з Кастрычніцкага раённага чынавенства ці вышэй.**

***Да сустрэчы,***
***Сымон Глазштэйн.***

# Як прагаласуе "малая радзіма"

**Напачатку года актывісты мясцовага недзяржаўнага грамадзкага сэктару правялі ў Шклове сацыялягічнае апытаньне сваіх землякоў. Рэдакцыі "ТМ" вынікі сьціплага дасьледваньня падаліся цікавымі. Яны пацьвярджаюць накінутую беларусам праз гістарычныя ўмовы існаваньня знакамітую "талерантнасьць": *абы не было вайны,* і сьведчаць пра разбуральныя наступствы апошніх 7 гадоў, найперш для духовага і псыхалягічнага стану чалавека, які *на сабе ведае, што і чаму дрэнна,* але *да асабістага ўдзелу ў набліжэньні лепшых часоў не гатовы.***

Зьвернемся, аднак, да анкеты і адказаў на яе. У апытаньні прынялі ўдзел 37 мужчынаў і 33 жанчыны. Зь іх вышэйшую і няпоўную вышэйшую адукацыю маюць 25 чалавек, сярэднюю і сярэднюю спэцыяльную – 36, пачатковую – 9.

Ім былі зададзеныя наступныя пытаньні й атрыманыя наступныя адказы.

1. Вашае матэрыяльнае становішча за мінулы год...
- *палепшылася – 1*
- пагоршылася – 55
- засталося на тым жа ўзроўні – 14

2. Ці даводзілася Вам адмаўляць сабе ў набыцьці прадуктаў харчаваньня?
- часта – 60
- зрэдку – 9
- ніколі – 1

3. Хто, на Вашую думку, вінаваты ў пагоршаньні жыцьця?
- прэзыдэнт – 22
- урад – 23
- мясцовая ўлада – 11
- апазыцыя – 2
- зьнікненьне СССР – 38
- грамадзяне краіны – 12

(Сума адказаў большая за колькасьць апытаных таму, што некаторыя вызначылі па 2-3 прычыны).

3. Што Вы зробіце, калі стане яшчэ горай?
- буду цярпліва чакаць лепшых часоў – 9
- буду выкручвацца самастойна – 22
- буду спадзявацца на выбары – 4
- зраблю як усе – 8

(Сума адказаў меншая за колькасьць апытаных таму, што ня ўсе вызначыліся ў сваіх паводзінах).

4. Ці жадаеце, каб выбралі іншага прэзыдэнта?
- так – 16
- не – 39
- пакуль ня вырашыў – 15

Да выбараў, як гаворыцца, рукой падаць. Ці здолеюць сілы, што намагаюцца пераменаў, заваладаць розумам і пачуцьцямі выбарцаў, якія відавочна не задаволеныя цяперашнім жыцьцём, але, як бачым, у большасьці гатовыя трываць надалей?..

***Па матэрыялах апытаньня ў Шклове***

# У Магілёве на Пазьняка не забыліся

Зразумела, што пра З.Пазьняка як магчымага кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах ня ўзгадвае ўлада і маўчыць афіцыйная прэса. Рэзка супраць асобы нястомнага і прынцыповага змагара за незалежнасьць краіны выступае прыхільная да садружнасьці з Расеяй (зразумела, на "цывілізаванай аснове") дэмакратычная апазыцыя.

Між тым Зянон Пазьняк і ягоная партыя КХП – БНФ маюць намер прыняць удзел у выбарах. Пра гэта ўчора ў абласным цэнтры ішла гаворка на сустрэчы сябраў мясцовай суполкі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі зь яе сустаршынямі Ю.Беленькім і А.Крываротам. Яны распавялі пра сваё разуменьне цяперашняй палітычнай сытуацыі, пазнаёмілі прысутных з апошнімі палітычна-публіцыстычнымі творамі лідэра (які знаходзіцца, як вядома, у эміграцыі, і які гатовы вярнуцца ў краіну пры ўмове рэгістрацыі сваёй кандыдатуры і гарантыях бясьпекі з боку ўладаў). Сябры суполкі вызначыліся з парадкам арганізацыі збору подпісаў за кандыдатуру З.Пазьняка.

***Уласная інфармацыя***

# Ад першага кроку

**26 траўня Сямён Домаш, лідэр "Гарадзенскай ініцыятывы", склікаў Зьезд прадстаўнікоў недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў рэгіёнаў Беларусі.**

**У прысутнасьці больш чым 800 дэлегатаў з 99 раёнаў краіны (а ўсяго іх 102) С.Домаш ня толькі пацьвердзіў сваю гатовасьць змагацца за прэзыдэнцтва, але і агалосіў асноўныя прынцыпы будучай выбарчай праграмы.**

Нельга сказаць, што было прамоўлена нешта асабліва новае. Было сказана й сапраўды так выглядала, што перад дэлегатамі – чалавек, як тое гаворыцца, адэкватны, прыхільны каштоўнасьцям дэмакратыі й ідэі незалежнасьці краіны, здольны кіраваць і ўлічваць інтарэсы ўсяго грамадзтва.

Вельмі важна, што ўсё сказанае прагучала менавіта на шырокай грамадзкай аўдыторыі, якая прэзэнтавала 800 дэлегатаў ад усяго роскіду рэгіянальнай незалежніцкай беларускай грамады, апазыцыйнай сёньняшняму рэжыму. Адну з самых прадстаўнічых дэлегацыяў дасылала нашая вобласьць.

Шматлікія камэнтары ў розных выданьнях, датычныя зьезду, ужо расклалі ўсё па палічках. Верагодна, няма сэнсу паўтараць гэтыя думкі. Таму спынюся толькі на некаторых уласных назіраньнях.

Па-першае, і ўдзельнікаў, і самога С.Домаша прыемна зьдзівіла колькасьць дэлегатаў. Фактычна, гутарка ідзе пра стварэньне сапраўднай палітычнай сілы. Дастаткова толькі падлічыць: за кожным з прысутных было яшчэ па 5-10 чалавек, аднадумцаў і паплечнікаў. А значыць, нават прыблізны колькасны склад новага руху вагаецца ў межах 4000-7000 чалавек. Гэта магутная падтрымка для прэтэндэнта і сур'ёзная сіла для ягоных канкурэнтаў.

Па-другое, па ўсёй атмасфэры залі адчувалася вялікае жаданьне людзей урэшце зрабіць тую справу, якую ад апазыцыі чакаюць апошнія 7 гадоў. Аўтар, які ўжо даўно ўцягнуты ў вір грамадзка-палітычнага жыцьця, сустрэў на зьезьдзе людзей, якіх не сустракаў у падобных месцах на працягу некалькі апошніх гадоў.

Было таксама відавочна, што С.Домашу і ягонай камандзе прыйдзецца яшчэ шмат папрацаваць, каб спраўдзіць абвешчаныя намеры. Гэта тычыцца і арганізацыйнага боку, і пытаньняў іміджу, некаторых тактычных момантаў. Прыкладам, на форуме выступілі прадстаўнікі Беларускай (аўтакефальнай) царквы. Ніколькі не аспрэчваючы такое іхнае права, мушу заўважыць, што ў краіне існуюць яшчэ некалькі канфэсіяў. Не магу ўтрымацца ад заўвагі на той конт, што С.Домаш свой выступ чытаў па паперы, не скарыстаўшы магчымасьцяў для свабоднай гаворкі, жывых адхіленьняў, знаходлівай імправізацыі.

Ня вельмі аб'яднаўча, як на гэта разьлічвалі арганізатары форуму, прагучаў на ім гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Настрою, узьнёсласьці ён прысутным не надаў, бо многія, як высьветлілася, вызнаюць за патрыятычныя іншыя песьні. Ды й увогуле, капіяваньне сцэнару афіцыйных (ці лепш сказаць казённых) мерапрыемстваў рэспубліканскага маштабу ў незалежніцкім грамадзкім асяродзі зусім неабавязковае. Пры тым, што якая можа быць узьнёсласьць, калі на двары цемра і несвабода.

А людзі ў залі прагнулі справы, каб распачаць новы рух да волі, без дадатковага стымуляваньня. І гэта на зьезьдзе было самым уражлівым.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***



Фота Д.Новікава



## Ці існуе яна, чароўная сіла мастацтва

**Абласны драматычны тэатар завяршыў сэзон вытанчаным спэктаклем на вечную тэму: чалавек і выбар, свабода і мараль, жыцьцё і сумленьне...**

Сьціплая на першы пагляд пьеса "У адкрытым моры" польскага драматурга-філёзафа Славаміра Мрожака ў пастаноўцы Ўладзімера Пятровіча дазволіла тэатру завяршыць сэзон гучным і актуальным клічнікам, калі здавалася, што пад націскам абыякавасьці і няўвагі да сябе з боку "культуровага начальства" і ўласных творчых стратаў ён, наш тэатар, паціху, але трывала пераўтвараецца з грамадзкай трыбуны ў шэраговую "установу культуры", затурканую людзкой беднасьцю і страхам.

Перамагчы беднасьць іншым разам немагчыма, але перамога над страхам заўсёды ва ўласных руках. Навошта ж і існуе мастацтва, калі не для таго, каб даваць прыклад роздуму над жыцьцём і ўяўляць сабой павялічанае люстэрка, куды калі-нікалі боязна і сорамна, але так неабходна глядзецца!..

У заключны тэатральны вечар шчыльна запоўненая заля назірала за сабой – як сказаў бы крытык, за чалавечымі тыпажамі – якіх бліскуча дэманстравалі Галіна Лабанок, Рыгор Белацаркоўскі, Аляксандар Пьянзін і Ўладзімер Пятровіч. Дзея адбывалася ў сцэнічнай прасторы (некіруемы плыт пасярод мора), якую вынаходліва арганізаваў мастак Алег Рыбакоў, пад натуральную ў гэтым выпадку музыку Горана Брэговіча...

Справа нават ня ў тым, ці многія сябе пазналі альбо захацелі пазнаць. Магчыма, што мастацтва не валодае той моцай, якую яму прыпісваюць. Ва ўсялякім выпадку, яно напэўна не валодае апэратыўным і непасрэдным узьдзеяньнем на паводзіны і ўчынкі чалавека. Яно толькі раскідвае зерняты маральнасьці і высакародных пачуцьцяў, за ўзыход якіх нішто ня можа паручыцца.

Акрамя, вядома, самога чалавека, мастацтвам закранутага. Калі, у прыватнасьці, яго не пакінула бяз роздуму нашая гісторыя: трое чалавек на плыце, да якіх на кароткі тэрмін далучаецца чацьверты, вырашаюць, каго зь іх трэба зьесьці, каб самім застацца жыць. Вельмі хутка наступае момант, калі паміж сабой гэткае ж пытаньне давядзецца вырашаць ужо дваім. А там, глядзіш, і застанесься з тым жа пытаньнем сам-на-сам...

І як жа быць?

Можа, увосень дазнаемся, ці закранула й якім бокам нашых людзей гэтая прытча.

Нават калі яны й ня бачылі апошняга магілёўскага спэктаклю.

*Генадзь СУДНІК*

На фота А.Ліціна, зробленым на прагоне спэктаклю, у ролі Сярэдняга Абломка – **Уладзімер САЎЧЫКАЎ**. Няхай даруе нам Р.Белацаркоўскі, які цяпер грае гэтую ролю – і выдатна грае – што мы падаем здымак з Валодзем. Яму, на жаль, не давялося выйсьці ў гэтым спэктаклі на сцэну. Прэм'ера, дарэчы, самімі акторамі і ўсім творчым калектывам была прысьвечаная яго светлай памяці...

СЁНЬНЯ – ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

## Як гэта робіцца ў Горках

**Райвыканкам забараніў пікет, заяўнікам на правядзеньне якога выступіла мэтадыст Дома рамёстваў Алена Лобан.**

Мэтаю пікету павінна было стаць прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да факту працяглага (амаль тры месяцы) затрымання выплатаў дапамогі на дзяцей. Прычынай забароны акцыі сталася тое, што месцам правядзеньня непажаданых уладзе мерапрыемстваў райвыканкам даўно вызначыў толькі гарадзкі стадыён, які знаходзіцца за мяжой горада. А на гэта не пагадзіўся заяўляльны бок. Між тым шмат хто з грамадзянаў, і ня толькі з асяродку дэмакратычных актывістаў, зьбіраўся прыйсьці на пікет каб падтрымаць справядлівы пратэст клапатлівай маці.

*Віктар КАРАЛЬКОЎ*

МУЗЫЧНАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

## Як гучыць Магілёў...

**Магілёву, шчыра кажучы, невядомыя настроі патасу ды ўзьнёсласьці прэзэнтацыйных фэстаў. Аднак 26 траўня ў дыска-залі "Ліга" была зладжаная прэзэнтацыя CD-кружэлкі "Могилёв. Гимн любимому городу" ці "The city of my heart" у ангельскім варыянце.**




Сьвята гораду ў замкнёнай прасторы танц-холу... Без сумневу, гэтая падзея ў лепшыя часы мусіла быць праведзенай больш якасна й маштабна, пры большым розгаласе ў грамадзтве. На CD гучаць кампазыцыі розных стылістычных напрамкаў, на дзіва дапасаваных адна да адной. Тутака і маладзевае культавае – "Віртуальныя тэхналёгіі", "Акруга свабоднага мастацтва", і эстрада – Іскуі Абалян, Іна Афанасьева, і аркестар народных інструмэнтаў, і зусім новыя выканаўцы, да прыкладу – Алена Макаранка.

Запіс музычнае візітоўкі Магілёву стаўся мажлівым дзякуючы юбілею Санкт-Пецярбургу, які ў 2003 годзе будзе адзначаць сваё 300-годзьдзе. Пагадзіцеся, што гэтыя юбілеі выходзіць па-за межы расейскага кантэксту. Прадзюсарскі цэнтар "Белатон" з гэтай нагоды распачаў унікальны па сваёй задуме міжнародны праект "100 гарадоў сьвету". Плёнам праекту мусіць быць запіс сэрыі кампакт-дыскаў – "музычных візытовак" – 100 культурных сталіцаў сьвету. Магілёў патрапіў у гэтую слаўную кагорту гарадоў.

Спрычыненасьць да працы над магілёўскім дыскам дазволіла ў чарговы раз адчуць некаторыя парадоксы сёньняшняй улады. Як, напрыклад, глыбіню ейнага культурнага падзеньня й адначасна – ейную здатнасьць да прапагандаваньня свайго (на жаль, не беларускамоўнага) прадукту. Нарэшце, гэта дазволіла ўбачыць ступень эканамічнага заняпаду краіны. Як высьвятляецца, на Беларусі таленавітыя асобы нікому не патрэбныя. Дзяржава ня лічыць іхную падтрымку сваім клопатам, а на мэцэнатаў разьлічваць не выпадае.

Аднак дыск сапраўды атрымаўся файным. Цудоўна зроблены буклет, аздоба кампакту й, канешне ж, музыка. Чым дрэнны пачатак стагодзьдзя? "Белатон" рушыў далей, сказаўшы на разьвітаньне: "Горад падобны да Сьфінкса. Гэтак і не адкрыўшы ўсіх сваіх таямніцаў. Каралі, Цары, Героі, Паэты. Яны стваралі гісторыю гораду, але так і ня здолелі зразумець моц гэтага месца".

*Алесь АСІПЦОЎ*




ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## Паміж бутэлькай і палітыкай

Мы – маладыя людзі. Мы любім вечары й гучаньне гітары. Мы таксама любім піва. І вось, набраўшы айчыннае "Крыніцы", з гітарай і сябрамі мы вырашылі адпачыць у так званым Камсамольскім сквэры ў цэнтры горада. Сьпявалі шмат песень з рэпэртуару "NRM", беларускіх народных і да т.п. Піва пілося цудоўна, але заставалася пустая тара, якую непрыгожа было пакідаць на месцы адпачынку. І вось тут зьявіліся "асэнізатары", то бок тры бабулькі й адзін дзядок, якія пачалі пільна сачыць за намі. Калі яны наблізіліся, у аднаго з нашых сябраў нарадзілася думка. А давайце аддадзім ім бутэлькі, прапанаваў ён, толькі пры ўмове, што яны не прагаласуюць за Лукашэнку.

Безумоўна, усе вы бачылі такіх бабуляў ды дзядуляў у нашым горадзе. І вам, відаць, як і мне, здавалася, што ім усё роўна, ад каго яны прымаюць пустыя бутэлькі. Аднак цяпер я думаю інакш. І вось чаму.

Мы сабралі сваю пустую шматлікую тару й паведамілі старым, што аддадзім усё толькі тым, хто ня будзе галасаваць за Лукашэнку. Адна бабуля кінулася забіраць усё, што было, дзядок пачаў думаць, а дзьве астатнія бабулькі адразу ж разгубіліся. Першая бабуля сабрала моўчкі ўсе бутэлькі й пайшла. І тут астатнія кінуліся за ёй з патрабаваньнем аддаць тару ім. Яны крычалі, што будуць за Лукашэнку галасаваць, аднак і зарабіць жа трэба! Усё ж першая бабуля здолела ўбегчы, а астатнія небаракі-асэнізатары падышлі да нас ды абазвалі... фашыстамі. Але мы іх ужо сур'ёзна не ўспрымалі, нас разьдзіраў малады рогат.


Фота IREX

На разьвітаньне я сказаў бабулькам і дзядку наступнае: калі вы, шаноўныя, прагаласуеце за Лукашэнку, дык і будзеце ўсё астатняе жыцьцё зьбіраць пустыя бутэлькі. Чарговым разам пачуўшы ад нас беларускую мову, яны канчаткова ўпэўніліся, што мы ёсьць фашыстамі й пайшлі шукаць іншага месца працы. Абрусам шлях...

*Антон МАЛАДЗІК*

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 1. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 31.05.2001 г. а 17.10.